# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.


## Каапэрацыя на службе дробнага земляроба.

Як вядома кожнаму нашаму чытачу і наогул кожнаму беларусу, што Рызкі Міравы трактат прынёс мала радасьці нашае старонцы. Тыя палітычныя і эканамічныя варункі, пры якіх нам сягоньня прыходзіцца існаваць, нельга назваць спрыяючымі нашаму эканамічнаму разьвіцьцю. Воляй склаўшыхся абставін, адвечны ўладар сваей зямлі і сваей старонкі — беларускі селянін часта мусіць пакідаць свой край, дзе гучным рэхам разносілася песьня яго бацькоў і дзядоў. Спаленыя вайной сядзібы, заросшыя хмызьняком ніўкі, месцамі разбураная дашчэнту гаспадарка — вось сумны абразок, што ўяўляе сабой тэрэна ваенных падзеяў, якую атрымаў у спадчыну наш земляроб. Заціхлі гукі арматаў, пачалі вяртацца на свае родныя пепелішча нашы сяляне і здавалася, што працалюбівы беларускі ратай ізноў запяе сваю родную песьню над сваімі гонямі. Але прашло 8 гадоў, гаспадарка калі і пачынае адбудоўвацца, толькі не пры мелёдзіі роднае песьні, а пры енках, якія выносяцца з-пад стрэх сялянскае халупы, а то і проста зямлянкі.

Шукаючы выхаду да лепшае долі, беларускі селянін аддаўся палітычнай акцыі — няўдала. Няўдачу пацярпеў, як па незалежным ад яго прычынам, так і ад браку асьветы. Скіраваў усе высілкі на здабычу асьветы ў роднае мове-тыя-ж самыя незалежныя ад яго перашкоды і брак матэрыяльных срэдстваў.

Здавалася, што пасьля гэтага энэргія беларускага працоўнага сялянства мусіла-б быць загнанай на безнадзейны шлях, пасьля якога настане адчай з усімі яго вынікамі. Так хацелася ўсім тым, каму

ідэя беларускага працоўнага сялянства прыходзілася не да смаку. Але жыцьцё і яе адвечныя законы мацней жаданьняў штучна створаных варожых нам акалічнасьцяў. Беларускі працоўны народ, які складаецца пераважна з дробных сялян, абвесьціў сьмяротную вайну ўсім перашкодам да цаляпшэньня свайго эканомічнага быту і людзкога існаваньня, пераходзячы да каапэрацыі. Так, за апошні кароткі час, якіх-небудзь 2-3 месяцы, на тэрыторыі Заходняе Беларусі адкрыты некалькі дзесяткаў новых спажывецкіх каапэратываў. Калі ўзяць пад увагу страшэнна цяжкі год па прычыне заглянуўшага ў нашу старонку голаду і тыя сьвядома робленыя нам перашкоды, потым матэрыяльнае убоства беларускага сялянства—гэта будзе здабытак на ніве эканамічнага нашага адраджэньня паважны, які сьведчыць, што беларускі селянін дакажа сьвету гэту сваю жывучасьць, якая памагла захаваць сваё нацыянальнае аблічча ў працягу цэлых вякоў і якая паможа і надалей вытрываць у змаганьні з усімі наскокамі звонку. Гэта жывучасьць дае і нам веру ў канцовую перамогу ідэалаў Беларускага Народу і сілу пераносіць усе калючкі жыцьця, якімі пакрыты шлях беларускага адраджэньня.

Так, вітаючы першы пачын нашае роднае каапэрацыі і жадаючы ей пышнага росквіту і адначасна пасылаючы шчырае «дзякуй» усім ініцыятарам гэтага пачыну, а роўна і усім працаўнікам беларускае каапэрацыі, мы мусім трохі затрымацца тут над тымі шляхамі, на якія было-б пажадана скіраваць наш каапэратыўны рух.

Усім вядома, што галоўнай крыніцай існаваньня нашага краю сягоньня зьяўляецца земляробства. Працэс драбленьня сялянскіх гаспадарак у апошнія часы прыняў разьмер, пагражаючы поступу і прадукцыйнасьці гэтае галіны нашага існаваньня. Спэцыяльнае земляробскае каапэрацыі ў нас няма, а стварыць яе калі і не немагчыма, дык у-ва ўсякім выпадку трудна, бо тут патрэбна дапамога дзяржаўнага характару, на што мы яшчэ пакуль ня лічым.

Існуючая ў нас польская земляробская каапэрацыя, як „kółki rolnicze“ ня вабяць да сябе больш нацыянальна і сацыяльна сьвядомых беларускіх сялян, бо гэтыя «kółki» чыста культурнымі ўстановамі назваць мы не адважваемся, а хутчэй лічым «наскокам звонку» на нашу самабытнасьць. Пакуль працэс беларусізацыі іх не адбыўся (на што мы маем і юрадычнае і маральнае права), мусім стварыць і нешта чыста сваё, даступнае нашай пустой кішэні. Зразумела, што беларуская спажывецкая каапэрацыя гэта можа і мусіць зрабіць, калі яна ня будзе аднабакова працаваць толькі на задавальненьне спажывецкіх патрэбаў сваіх сяброў. У такім выпадку каапэратывы будуць толькі гандлярамі, ня маючымі культурна грамадзкай вартасьці.

Думаецца, што нашым працаўнікам каапэрацыі час падумаць і знайсьці спосабы злучэньня мэтаў спажывецкай каапэрацыі з земляробскай, а для гэтага адкрываецца шырокае поле дзеяльнасьці.

Калі нашы каапэратывы зьвярнуць увагу на задавальненьне сваіх сяброў штучным угнаеньнем, рознымі земляробскімі прыладамі, насеньням, дык гэта ўжо будзе зроблены першы крок на злучэньне земляробскае і спажывецкае каапэрацыі, гэта дасьць срэдствы на пашырэньне далейшае працы, якая у хуткім часе дазволіць каапэратыву мець свой пракатны, машынны, злучны, зерняачысьціцельны пункты. Будзем помніць, што земляробская каапэрацыя, нясучы дабрабыт сваім сябрам — дробным земляробам, зможа змагацца са злом драбленьня вясковых гаспадарак, злучаючы іх у каапэратыўныя гаспадаркі. Замест паасобных карліковых гаспадарак паўстануць калектывы, якія змогуць абрабляць зямлю ўдасканаленымі прыладамі, цераносячы цяжкую працу земляроба на плечы машыны.

Пладародзьдзе глебы, лепшая яе апрацоўка, угнаеньне, карыстаньне дапамогай навейшай тэхнікі магчымы не па вузенькіх сялянскіх палосках, не на 1-2 дзесяцінных гаспадарках, а толькі на гаспадарках, злучаных каапэрацыяй у колектывы.

Гэта будзе бязкроўная рэвалюцыя на ўсей нашай Бацькаўшчыне, якая зробіць нас братамі-сябрамі, стварыць дружную і салідную грамаду, што прынясе нам сонца свабоды, радасьці. Гэта бязкроўная рэвалюцыя стукаецца ў нашы дзьверы, і ці будзе разумным яе ня пусьціць?

Вось што нясе нашаму краю каапэрацыя на службе земляроба ў будучыні. Ад нас залежыць гэту будучыню прыблізіць.

**У. Павалковіч.**

# Азот і яго роля ў жыцьці нашых збажын.

На старонках „Сахі“ наш чытач часта спатыкае слова *азот*. Мы знаем ужо, што азот ня толькі патрэбны для жыцьця ўсіх расьлін, але ён зьяўляецца каштоўным складнікам спажывы як расьлін, так чалавека і наогул усяго жывога. Азот такім чынам зьяўляецца таварышом жыцьця на зямной кулі, бо дзе ёсьць жыцьцё, там абавязкава мусіць быць прысутным і азот. Між тым, як іншых складнікоў спажывы расьліне прырода стараецца сама прыгатовіць, дык гэтага нельга сказаць пра азот, дзеля чаго яго заўсёды на нашых глебах ня хапае, а гэта часта прычыняецца да малаўраджайнасьці беларускіх зямель. Беручы пад увагу аграмадную ролю азоту ў ураджайнасьці нашае глебы, мы пасьвячаем знаёмству з азотам гэты артыкул, думаючы, што знаёмства з азотам дасьць магчымасьць нашым чытачом лепш разьбірацца ў вялізным ліку розных як натуральных, так і штучных угнаеньняў.

**Што такое азот?** У навуцы азот па лацінску называюць „Nitrogenium“ і часта абазначаюць аднэй літарай N. Гэта ёсьць газ, якога ў паветры, што мы дыхаем, маецца каля 80% (азоту 78,06%, тлену (кіслароду) 20,97%, вугальнага квасу 0,03% і іншых 0,94%).

Азот ёсьць газ бяз колеру, паху і смаку. Хімія яго называе элемэнтам лянівым, бо ён трудна злучаецца з іншымі элемэнтамі. У мінэралах яго няма, за выняткам *чылійскай салетры* (злучэньне азоту з содай), якая залягае аграмаднымі пластамі ў Паўднёвай Амэрыцы і *індыйскай* салетры (злучэньне азоту з паташом), якая залягае ў Азыі, на востраве Цэйлён. Гэтыя солі паходжаньня арганічнага. Азот уваходзіць у розных злучэньнях і розных хвормах у склад расьліны, прыдаючы яму спажыўнасьць для чалавека і жывёлы. Бялок расьліны і жывёлы мае ў сябе да

20% азоту. Усе злучэньні азоту мы называем арганічнымі азоцістымі злучэньнямі.

У глебу азот трапляе з часткамі расьліны ці жывёлы. Там ён перарабляецца пры дапамозе маленькіх істот—бактэрый ў такія хвормы, з якіх азот могуць браць сабе ў спажыву карані расьліны. Гэты процэс вельмі складны (сложны) адбываецца пры дапамозе бактэрыяў, называемых у навуцы *нітрыфікуючымі*, ад чаго і самы процэс называецца *нітрыфікацыяй*. Гэтыя бактэрыі пераводзюць азот з недаступнай хвормы для збожа ў даступную ў прысутнасьці тлёну (кіслароду) паветра, дзеля чаго кожны земляроб стараецца сваю глебу дзяржаць заўсёды ўспульхненай. Процэс нітрыфікацыі адбывацца ў глебах забалочаных і квасных ня можа. Вось дзеля чаго такія глебы лічацца непладароднымі. Пры нітрыфікацыі асвабаджаюцца шмат кіслот, шкодных для жыцьця гэтых бактэрыяў. Каб нейтралізаваць (абязшкодзіць) гэту квасnасьць, глеба патрабуе вапны. Вось дзеля чаго на тых глебах, дзе вапны мала, трэба яе дадаць. Вось дзеля чаго нам патрэбна асушка сырых нашых глебаў.

**Як пападае азот у глебу.** Азот паветра, дзе яго маецца каля 80% для бальшынства нашых збажын ёсьць мёртвым капіталам, бо ім яны карыстацца ня могуць. Тыя расьлінныя часткі, якія мы ўносім з гноям, або якія заворваем пасьля здыйму ўраджаю, складаюць нязначны проц. Здавалася, што абядненьне глебы азотам мусіць хутка настаць, нашы ураджай будзе паступова зьмяншацца і існаваньню чалавецтва, як роўна і ўсяму жывому на зямной кулі гразіць у хуткім часе небясьпека. Так магло-б і быць, каб прырода не паклапацілася на ратунак нам даць ізноў маленькіх істот — бактэрыяў, якія пасяляюцца ў асобых гузочках на карэньнях рэсьлін з сям'і матыльковых (лубін, сэрадэля, канюшына, гарох, віка, боб і інш.). Гэтыя бактэрыі ловяць свабодны азот з паветру і зьвязваюць яго ў злучэньні, якія ідуць ў спажыву расьліны.

Як вялікая праца гэных маленькіх дабрадзеяў земляроба, параўнаем наступныя дзьве табліцы:

Расьліны, што бяруць з глебы азот:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Жыта | з 1 гэктара | бярэ азоту | 63 | кілгр. |
| Пшаніца | „ | „ | 85 | „ |
| Ячмень | „ | „ | 59 | „ |
| Авёс | „ | „ | 67 | „ |
| Бульба | „ | „ | 96 | „ |
| Кармавы бурак | „ | „ | 129 | „ |
| Морква | „ | „ | 133 | „ |

Расьліны — азотазьбірацелі, што абагачаюць глебу азотам.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Лубін завораны пакідае на 1 гэктар азоту | | | 150 | кілгр. |
| Канюшына | " | " | 134 | " |
| Віка | " | " | 105 | " |
| Люцэрна | " | " | 230 | " |

Гэтыя лічбы прыставіў, каб паказаць нашым земляробам, якую аграмадную працу робяць маленькія істоты — бактэрыі і якую карысьць прыносіць культура матыльковых расьлін.

На заканчэньне гутаркі аб азоце, скажу, што чалавецтва ў апошнія часы зацікавілася выкарыстаньнем азоту паветра. Нарэшце ўчоным удалося знайсьці спосабы зьвязаньня атмасфэрнага азоту для ужытку земляроба. Ужо некалькі гадоў працуюць спэцыяльныя фабрыкі, якія з паветра прыгатаўляюць азоцістыя штучныя ўгнаеньні, як салетру нарвэзкую, салетру содавую, салетру амонавую і азотняк.

Праўда, гэтыя угнаеньні сягоньня яшчэ каштоўныя, але ўжо імі карыстаюцца, а трэба спадзявацца, што людзкі розум са сваёй удасканаленай тэхнікай у недалёкай будучыні знойдзе больш танныя спосабы прыгатаваньня з азоту паветра штучныя азоцістыя угнаеньні. А колькі гэтага азоту ў паветры, дык можна ўявіць сабе з таго, што над кожнай дзесяцінай нашай зямлі яго маецца каля 100 міліёнаў кілёграмаў.

П.

---

## Некалькі ўваг да культуры кармавых караньплодаў.

Караньплодамі мы называем буракі, рэпу, моркву, бручку і іншыя. У ад'знаку ад сталовых караньплодаў, што ідуць для ўжытку чалавека, караньплоды, якія ідуць для корму скаціне завуцца кармавымі. Аб апошніх і будзе тут гутарка.

Па смаку кармавыя караньплоды трохі уступаюць сталовым сартам, але па ўраджайнасьці шмат вышэй стаяць за апошнія. Гэта асаблівасьць кармавых караньплодаў, якія часта могуць даваць ураджай да 4000 пудоў з дзесяціны, даўно ўжо зьвярнула ўвагу культурных гаспадароў. Што год плошча пад кармавымі буракамі павялічваецца нават за шчот хлябоў. Вырахавана, што буракі шмат карысьней садзіць за жыта, пшаніцу, авёс і іншыя каласавыя збажыны. Калі мы возьмем параўняем наш ураджай жыта з ураджаям кармавых буракоў, пераведзеных на кармавыя адзінкі, дык убачым вялізную розьніцу. Сярэдні ўраджай жыта

ў Заходняе Беларусі лічыцца з дзесяціны 40 пуд. зярня і 90 пуд. саломы, ці 2655 кармавых адзінак. З тэй-жа дзесяціны можна атрымаць у сярэднім каля 2000 пуд. кармавых буракоў, што дае 8000 кармавых адзінак.*) Нават, калі калі мы сюды ня будзем далічваць бацьвіньня, дык атрымаем вялізную розьніцу — 5345 карм. адзін.

Праўда, ад адных буракоў карова ня толькі ня будзе даваць малака, але і ня будзе жыць, бо да іх заўсёды трэба дадаваць сільных кармоў і саломы ці сена, затое, ўводзячы ў кармавую дачу буракі, мы можам паменшыць дачу сена і навет сільных кармоў. Апрача таго, караньплоды лічацца малакагонымі кормамі і бяз іх трудна злажыць правільную кармавую норму. Як відаць з гэтага, караньплоды павінны сыграць значную ролю ў паляпшэньні галоўнай галіны сельскае гаспадаркі — жывёлагадоўлі.

У апошнія часы культурай кармавых караньплодаў пачынаюць цікавіцца і нашы перадавыя гаспадары. Ужо можна шмат дзе бачыць ня толькі на гародзе, але і на полі пасеяныя буракі або рэпу. Праўда, гэта яшчэ ёсьць толькі першая спроба, часамі навет і няўдалая, але зацікаўленасьць сярод нашых сялян, асабліва чытачоў „Сахі“, караньплодамі ёсьць.

Каб ухіліць у будучыні няўдалыя спробы з культурай караньплодаў, мы павінны пазнаёміцца, як іх сеяць і які патрэбны за імі дагляд.

**Буракі.** Трэба цьвёрда памятаць, што пад кармавыя буракі заўсёды адводзіцца найлепшая глеба, на якой яны даюць ураджай да 2000 пудоў з дзесяціны. На дрэннай зямлі ўраджай іх можа быць і меншы 1000 пуд., што лічыцца нявыгадным, бо не аплачвае працы і кошту за іх даглядам.

Найлепш сеяць буракі пасьля жыта, пад якое кладзецца гной. Добра на такое поле з восені падвязьці яшчэ гною, бо буракі вельмі любяць угнацьньне і на такім полю даюць добрыя ўраджаі. Поле пад буракі трэба ўзараць яшчэ з восені і глыбей, чым гэта робяць нашы сяляне.

Сеюць буракі рукамі або ручным сяўнікам „Плянэт“. Калі сеюць рукамі, дык перш трэба на полі зрабіць радкі ў адлегласьці адзін ад другога на 10—12 вяршкоў. Радкі можна вызначыць або шнурам або значнікам, які лёгка зрабіць самому, дзеля чаго бярэцца брусок, пракручваецца 4 дзіркі на 10—12 вяршкоў і заганяюцца драўляныя зубы. Да бруска прыбіваецца ручка, за якую і цягнуць значнік. У праведзеныя баразёнкі кладуць зярнё (клубочак) адно ад другога на 1—1½ вярш. і засыпаюцца зямлёй. На дзесяці-

---

*) 1 карм. адзінка раўняецца: васьмём дзесятым фунта жыта, 5 з паловай фунтам саломы, і 10 фунтам буракоў.

ну насеньня буракоў патрэбна 50—60 ф. пры ручной сяўбе і 35 – 40 фун. пры машынай.

Сеюць буракі тады, калі зямля добра сагрэйца, што бывае зараз-жа пасьля пасеву раньніх яравых хлябоў. Тут



Ручны палольнік.



Матыка.

ня трэба эабываць таго, што буракі для свайго росту патрабуюць каля 5 – 6 месяцаў, дзеля чаго пазьніцца з гасенам буракоў ня варта. Апрача таго, буракі можна вырашчваць як расаду капусты і тады садзіць расадай. Гэта дае магчымасьць прадоўжыць рост буракоў на 3—4 тыдні. Пасеў расадай патрабуе тольлі 6 – 8 фун. насеньня на дзесяціну. Садзіцца расада на поле, як яна падрасьце таўшчынёй з гусінае пяро. Тут пільна трэба сачыць, каб пры пасадцы буракоў не загібаўся карэнчык. Садзяць буракі **роўнамерна** і на 6 – 8 вяршкоў расьлінка ад расьлінкі.

Буракі па полі абыходзяць праз 12—16 дзён, а пры сухой пагодзе і пазьней. За гэты час можа поле зарасьці сарнякамі. Вось дзеля чаго трэба разам з буракамі для вызначэньня радкоў пасеяць 5—6 фун. ячменю, або аўса, каб мець магчымасьць праматыжыць радкі.

Сарнякі паміж радкоў зьніжтажаюцца матыкамі, а лепей палольнікамі „Плянэт". Такім палольнікам адзін чалавек праполе 1 дзес. за 3 – 4 дні, а ручной матыкай за 12—14 дзён. Мотыкаваньне зямлі між радкоў трэба рабіць часта, каб зямля была заўсёды ўспульхненай.

Як толькі падрастуць усходы буракоў і будуць мець 3—4 лісточкі, іх трэба прарадзіць. З гэтай працай спазьнівацца ня трэба, бо ў праціўным выпддку буракі будуць

расьці дрэнна і ўраджай будзе малы. Калі рост буракоў будзе дружны, дык можна адразу пакідаць расьлінку ад расьлінкі на 5—8 вярш. (на лепшай зямлі радзей, а на горшай гусьцей), а калі бурачкі растуць слаба, дык трэба прарэджваць 2 разы. Пасьля прарэджваньня поле матыкуюць трэці раз. Чацьвёрты раз матыкаваць часта бывае ня варта.

Часта прыхддзіцца буракі абсыпаць, асабліва калі пасаджаны сорт, што расьце амаль не цалком над зямлёй. Неабсыпаныя карані дзерванеюць і няпрыемны на смак.

**Рэпа.** Кармавую рэпу яшчэ называюць турнэпсам. Глеба павінна быць, таксама як і пад буракі, добра апрацавана. Выраб такі самы. Рэпа добра расьце на суглінках і глебах вільготных. Пасеў робяць толькі насеньнем, бо расадай рэпа не прыжывае, Далейшы дагляд за турнэпсам аднолькавы як і за буракамі. Рэпа сеяцца пасьля 25 траўня да 10 чэрвеня. Раней не рэкамандуецца, бо маладая расьлінка падпадае пад земляную блыху.

Гэта расьліна заслугоўвае ўвагі тым, што пэрыяд росту яе кароткі — 3—4 месяцы. Дзеля гэтага турнэпс можна сеяць пасьля здыйму раньняга збожжа, напрыклад вікі на зялёны корм. Можна яе сеяць вясною па жыце, а ўраджай зьбіраць пасьля здыйму жыта.

**Бручка.** Глеба, апрацоўка яе, даглвд за бручкай аднолькавыя з папярэдняй культурай. Пясеў бручкі найлепш рабіць расадай. **У. П.**

## Памідоры.

Памідоры—расьлінка паўднёвая. Пры нашых кліматычных умовах яна хаця і можа расьці, але для яе росту трэба ствараць на першы пачатак штучныя умовы, што вымагае ад гадоўца памідораў некаторых спэцыяльных ведаў. Культура памідораў на Беларусі трэба лічыць карыснай, асабліва каля вялікіх мястэчак і гарадоў, дзе на памідоры заўсёды існуе вялікі папыт. Карысная культура памідораў павінна быць і для нашых гаспадынь, якім яны дазволяць палепшыць нашу кухню, бо памідоры зьяўляюцца добрым прысмакам.

Адзін куст памідораў можа даць да 3 кілёгр. добра высьпеўшых пладоў, а з аднэй лешкі да 300 кілёгр.

Вэгетацыйны пэрыяд, гэта значыць час росту памідораў да іх высьпяваньня роўны каля 4—5 месяцаў. Гэта асаблівасьць памідораў прымушае нашых гаспадароў вырашчываць расаду іх у парніку ці, ў крайнім выпадку, ў цёплых расадніках. Тут расаду да высадкі яе на грунт трэба 2—3 разы перасаджваць, каб выклікаць рост дробных каранькоў—мочак. Перад пасадкай на адкрытае месца расаду трэба ў парніку або расадніку паліць.

Месцапалажэньне для памідораў пажадана адкрытае на поўдзень і закрытае ад халодных вятроў. Глеба — легкая і сільна ўгноеная. Садзіць на адкрытае месца памідоры найлепш у канцы мая, як толькі на расьлінцы пакажуцца 4 лісткі. Раней высаджваць расаду рызыкоўна, бо памідоры могуць пацярпець ад прымаразкаў. Садзячы памідоры на ляху, трэба расьлінку прывязваць да коліка.

Густа садзіць расаду памідораў ня варта: адпаведная адлегласьць будзе 1 аршын расьлінка ад расьлінкі.

У часе росту трэба старацца, каб зямля была заўсёды ўспульхненай і расьлінку час-ад-часу абсыпаць.

Памідоры даюць надта многа сукоў, што шкодзіць стварэньню пладоў. Лішнія сукі, як толькі знойдзецца завязь, трэба выразаць, а пад восень і сашчыківаць усе новастораныя зявязі. Абразаньне сукоў за лета прыходзіцца рабіць 3—4 разы.

З паліўкай памідораў ня трэба сьпяшыць, бо яны лепш пераносяць сушу, чым сырасьць у глебе.

Калі надыходзяць марозы, а плады памідораў ня высьпелі, дык іх можна высьпець на вокнах, дзе яны ад сонца робяцца чырвонымі.

Для Беларусі будуць найлепшымі гатункамі раньнія, як *кароль раньніх, Alice Rosewelt, Erlina Sperksa.*

Г.

---

# Што такое запаленьне?

Найчасьцей даводзіцца чуць аб запаленьні. Аб ім гаворыць і той, хто ведае, што яно азначае, і той, хто іначай ня можа назваць тую ці іншую хваробу.

Забаліць жывот—кажуць „запаленьне“, пачне душыць кашаль—„запаленьне“, заразіцца чалавек, або жывёла—„запаленьне“, усхопіцца верад або сядзе скула—„запаленьне і г. д. у нас заўсёды кажуць „запаленьне“.

І гэта не без падставы: бо большасьць хвароб, як вядома, пачынаецца з запаленьня. Запаленьне можа зрабіцца ў кожным органе і на кожнай частцы цела як знадворку яго, гэтак і з сярэдзіны, і можа захапіць альбо малую частку цела (напр. скула, верад) альбо захоплівае праз кроў усё цела (як напр. пры заразе вуглянкаю—карбунак).

Пачынаецца запаленьне з таго, што да захварэўшага месца адразу прылівае шмат крыві; і тым большае будзе запаленьне,—чым больш са слабога месца прылівае крыві.

Праз гэта захварэўшая частка цела пачынае б а л е ц ь, н а б р а к а е, ч ы р в а н е е і робіцца г а р а ч а ю. Адзнакі гэтыя добра можна назіраць, калі запаленьне бывае зьверху, а не ў сярэдзіне. Наадварот, калі запаленьне робіцца ў ся-

рэдзіне, то, апрача гарачкі (трасцы), іншых праяў можна спачатку і не заўважыць.

Шмат якімі прычынамі можа выклікацца запаленьне: напр., калі жывёла наб'е, натаўчэ, намуляе альбо падпарыць якое месца; або праз сьпёку і холад; праз розныя моцныя лякарствы, як напр., купарвасы, амоньяк, шпанскія мушкі, шкіпінар і інш. Усё гэта можа выклікаць запаленьне. Апрача гэтага, розныя запаленьні прыкідаюцца ад заразы: малюсенькія, нявідныя простым вокам стварэньні (якіх завуць у навуцы—мікробы) пападаюць у цела, плодзяцца там і атручываюць кроў,—ад чаго ў целе падымаецца гарачка і запаленьне, а ў некаторых выпадках заводзіцца і гной у крыві; кроў псуецца і часта справа канчаецца нават сьмерцю занядужаўшай жывёлы.

Лечаць запаленьне ў кожным выпадку парознаму і найбольш клапоцяцца аб тым, каб спыніць яго пашырэньне. Для гэтага робяць захады, каб зьнішчыць прычыны, якія выклікалі запаленьне. Калі, напр., запаленьне зрабілася ад пабояў і натоўку, альбо ад націраньня хамутом, сядлом і інш.,—тады мяняюць вупраж альбо дапасоўваюць яе так, каб яна ня муляла. Калі, напр., запаленьне прыкінецца ад застуды,—жывёлу ставяць у цёплае месца і г. д.

Каб затрымаць пашырэньне запаленьня, спачатку ўжываюць холад, ад якога спыняецца прыліў крыві да гэтага месца; для гэтага бяруць тысьценькую лапінку, мочаць яе ў халоднай вадзе і прыкладаюць да халоднага месца. Ад холаду жылы вузеюць, па іх прабягае менш крыві, вопух перастае павялічвацца і запаленьне зьмяншаецца. Дві праз 2—3, калі холад спыніць гарачыню і павялічаньне вопуху, альбо боль і вопух ад холаду не памяншаюцца, то тады да хворага месца прыкладаюць прыгрэўкі альбо ўціраюць розныя мазі, робяць расьціраньні з аліваю і шкіпінарам, каб вопух хутчэй разыходзіўся.

Калі-ж бывае, што вопух ня толькі не разыходзіцца, а на месцы запаленьня робіцца верад або скула, то, як толькі ён дасьпее і прарвецца, бывае патрэбна яго разрэзаць, каб пашырыць выхад для гною і каб выгадней было яго ачышчаць і прамываць 3 прац. карболкаю альбо крэолінаю. Разрэзаць трэба чыстым і вострым нажом, які перад тым абмываецца карболаваю вадою. Пасьля разрэзу, асабліва калі гной увесь ня выходзіць адразу і вопух не спадае, бывае карысна налажыць на прарваўшы верад або скулу „прыгрэўку“. Пры вялікім запаленьні карысна даваць жывёле на развальненьне (фунт глаўбэрскай солі) і менш паіць яе.

Далей у кожным паасобным выпадку будзе зазначана, як трэба лячыць запаленьне ў тэй ці іншай частцы цела. Тут мы толькі заўважым, што хворае жывелы нельга браць

да працы, найлепш даць ёй поўны супакой, падбаць аб тым, каб у яе заўсёды была сухая і чыстая падсьцілка, карміць яе належыць смачным і добрым кормам і паіць чыстаю нехалоднаю вадою.

Тут да рэчы будзе адзначыць, што па нашых вёсках канавалы і шаптуны вельмі любяць пры кожнай хваробе пушчаць кроў у жывёлы. Але ад гэтага хворай ня толькі ня лепей, але, наадварот, робіцца яшчэ горай. Трэба памятаць, што кроў — гэта самая найдаражэйшая частка цела жывёлы і што яе трэба вельмі берагчы, а не бяз сэнсу разьліваць. Тыя часы, калі пускалі кроў ня толькі жывёле, але і людзям, даўно прашлі. Бо гэта ня толькі не карысна, але, наадварот, як даводзіць сучасная навука, нават і небясьпечна. Асабліва ня можна пускаць кроў, калі жывёла захварэла заразьліваю хваробаю, бо ў крыві, што выцякае з такое жывёлы, шмат будзе заразы і праз гэтую кроў зараза можа вельмі лёгка пашырацца, а хворай жывёле гэта ніякай карысьці ня толькі не прынясе, але нават шашкодзіць.

Вось чаму статут вэтэрынарны забараняе пускаць кроў там, дзе зьявіцца сярод жывёлы заразьлівая хвароба.

Урэшце трэба ведаць, што вельмі мала ёсьць такіх хвароб, пры якіх навука кажа пускаць хвораму кроў,— гэта 1) пры запаленьні лёгкіх і 2) пры запаленьні мозгу,— да і то трэба рабіць гэта ўмеючы і з асьцярогаю, бо ня дарма даўнейшая прыказка гаворыць: „кроў адчыніць— цьвік у труну ўсадзіць“... **Вэтэрынар Ів. Серада.**

# Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Раіцца па ўгнаеньні сенажаці кайнітам і іншымі штучнымі ўгнаеньнямі не выпускаць на некаторы час скаціну. Па якой гэта прычыне і на які час?

**Готто.**

**Адказ.** Штучныя ўгнаеньні ў сваім хімічным складзе маюць якую небудзь кіслату, шкодную для здароўя жывёлы. Пакуль угнаеньне не распусьціцца і не ўбярэцца ў зямлю, ня варта на ўгноенную сенажаць выпускаць скаціну, каб апошняя часам не атруцілася.

**Пытаньне.** Маю да выбару попел драўляны і ад каменнага вугаля. Цана прыблізна роўная. Які з попелаў лепш надаецца як угнаеньне.

**А. Сарокін.**

**Адказ.** Склад попелу залежыць ад гатунку дрэва. Прынята лічыць, што попел ад лістовых парод дрэва мае каля 10 проц. паташу і 3 проц. фосфаравага квасу, а хвойных—6 проц. паташу і 2 проц. фосфару.

Попел з каменнага вугля мае шмат безкарыстнай крэмнёўкі і вапна, а часам мае атруту для расьліны (сярчакі), дзеля чаго лепш гэты попел ужываць для кампосту.

Пры выбары попелу зьвярніце ўвагу на спосабы яго перахоўваньня, бо калі ён ляжаў пад даждмом, дык трэба лічыць, што паташ (а попел лічыцца паташовым угнаеньнем) выпаласканы.

**Пытаньне.** Што за прычына гніеньня цыбулі?

**Мікалай Буднік.**

**Адказ.** З Вашага пытаньня трудна ўзнаць прычыну хваробы цыбулі. Думаецца, што Вы неадпаведна яе перахоўваеце, або ў Вас не адпаведная глеба. Ня садзіце цыбулю часта на адным месцы.

Цыбуля для свайго росту патрабуе шмат цяпла, дзеля чаго для яе патрэбна выбіраць добра аграваемае сонцам месца і захаванае з боку халодных вятроў. Глеба мусіць быць прапушчальная, бо ад лішку вады яна загнойвацца. Любіць глебу добра ўгноенную, але ад сьвежага хлеўнага гною таксама можа загнівацца. Найлепш яе садзіць на гародзе на другі год пасьля гною. Калі вясной і кладзецца гной, што трэба лічыць неправільным, дык у-ва ўсякім выпадку гной мусіць быць добра перапрэлы. У часе росту цыбулі ня трэба сашчыкваць лісьцё, як гэта робяць нашы гаспадыні, а калі гэта бывае неабходным для кухні, дык робячы гэтую опэрацыю помніць, што расьлінка ад сашчыкваньня затрымліваецца ў росьце. Шкодна таксама зялёнае лісьцё абвальваць, пакуль яно не пачне сохнуць. Выбіраць яе трэба ў сухую пагоду і ўсю зіму перахоўваць у сухім і цёплым месцы.

Звычайна ў нас на вёсцы садзюць цыбулю галоўкамі. Гэты спосаб трэба лічыць не эканомным. Лепш першы год пасеяць насеньне цыбулі і на другі год садзіць цыбуляй саджанкай, як яе на вёсцы называюць дымкай.

Цыбуля любіць, каб у часе яе росту зямля была ўспульхненай, што можна зрабіць матыкай або спэцыяльным палольнікам-матыжнікам „Плянэт“.

Найбольш у нас распаўсюджаны гатункі цыбулі—Жытаўская і Мадэра круглая.

**Пытаньне.** Што такое фэс-мэтр?

**М. Буднік.**

**Адказ.** Фэс-мэтр кубічная мера масы, гэта значыць мэтр у даўжыню, мэтр у шырыню і мэтр у вышыню.

**Пытаньне.** Калі лепш сеяць авёс? **А. С.**

**Адказ.** На Ваша пытаньне дае адказ найлепш сама прырода, якая больш чым усялякія „знахары“ і навет календары „адчувае“ гэты час. Біняконская дасьледчая станцыя (Лідзкі павет) сьцьвярджае, што найвыгаднейшым часам для пасеву аўса трэба лічыць тады, як пачне зелянець

бяроза. Лубін сеяць, як зацьвіце верба (salix caprea), бульба—калі бэз у пупышках.

**Пытаньне.** Ці варта вясной пераворваць восенскую арбу пад авёс?

**С. Андронік.**

**Адказ.** Досьледы і практыка апошніх часоў дaказвае шкоднасьць воркі вясной. Калі бяз гэтага зла нельга абыйсьціся, дык трэба пільнавацца наступных правіл: 1) ня араць, калі зямля мажыцца аб плуг, бо такая ворка псуе глебу; 2) зараз-жа па ворцы пусьціць барану і 3) ня сеяць зараз-жа за плугам, бо такую ральлю напэўна апануюць сарнякі раней усходу збожжа.

# Ад чытача да чытача.

Прабачайце, браточкі-сяляне, што я трохі „палаяў" у мінулым нумары „Сахі" таварышоў-чытачоў. Меў я слушнасьць ці не — судзіце самі, а ў сваё апраўданьне дазвольце сказаць, што я чалавек нэрвовы, сачу за нашым культурна-гаспадарчым адраджэньнем з хвараблівай увагай і часам, бачачы, як гэта адраджэньне ў нас рухаецца чарапашым шагам, дапускаю сябе апанаваць жоўцьцю. Што-ж рабіць, калі гэтай жоўці зашмат выпускае печань кожнага „пана касы і сахі", а я-ж ім быў, ёсьць і буду.

Ну сягоньня, браточкі-чытачы, маю на мэце ня вас, а нашага рэдактара.

Запраўды „чудакаваты" гэты чалавек наш рэдактар. Паглядзімо, як ён стала на старонках „Сахі" лаіцца з намі за нашы парадкі ў гаспадарцы. Пападзе беднага, галоднага селяніна, ну і ўзваліцца на яго. То яму не падабаецца, што беларускі ратай мала атрымлівае са сваей ніўкі, то яму „капціць" паглядзець у нашы хлявы, як там сёлета мёрзла наша скаціна, палажыўшы зубы над поснай саломай, а то і проста над голыміясьлямі, быццам думае налажыць на яе сэквэстр за нядоімку ў „Саху". А то „тыкае" нам прыклады, як гэта жывуць сяляне заграніцай, дзе атрымліваюць высокія ўраджаі і жывуць лепш за „нашых" паноў.

Паглядзімо, як ён выдумлівае нейкія севазвароты, культуру балот, травапасеў на полі, кармленьне па нормам і розныя там „гаручкі", якія нам зусім непатрэбны? І ўсё адно і адно, аж напрыкрала чытаць і хацелася-б неякае перамены, ну хаця-б канфіскаты „Сахі". Усё-ж была-б неякая перамена ў нашым жыцьці, а чытачом перадышка.

А паглядзець, як разбурвае бацькаўскія звычаі ў гаспадарцы, як заклікае дзяцей не шанаваць бацькоў і вясьці парадкі ў гаспадарцы ня так, як яны вялі, а як выдумвае там неякая навука. Усё роўна, як неякі рэвалюцыянер, а то і проста вывратовец.

Упарты і шкодны чалавек наш рэдактар, якому даўно пара „ў дымісію“ на спачынак у „дом пакуты“. Але што! Яму ідаць ня страшны і гэты „спачынак“, абы толькі цяпер налаяцца ў волю. Праўда, паноў ён дык не чапае, бо з тымі жарты слабыя, дык ляпей валі на сярмяжнага: ён усё зьнясе.

У апошнія часы мы чакалі неякае палёгкі ад нашага рэдактара і думалі, што нарэшце перастане лаяцца, але-ж бачаце: ён перашагноў усялякія ўжо граніцы, бо ўзяўся „лаіць“ і нашых жанчын і „суецца“ да іх з рознымі шкоднымі ідэямі, як, напрыклад: што можна прыгатаваць з малака. Гэтага яшчэ ня было, каб заварачваць шкоднай працай мазгі нашых жонак і сясьцёр.

Вось, браточкі, які шкоднік зьявіўся на нашай зямлі. Добра, што яго „Саха“ не даходзіць да ўсіх нашых вёсак і мы яшчэ яе ня стараемся распаўсюдзіць, а то быў-бы канец сьвету.

Што-ж нам рабіць з гэтым нашым няшчасьцям? Думаў я, думаў і выдумаў вось што: трэба нам перахітрыць гэтага ўпартага рэдактара і быццам згадзіцца з яго парадамі. Паслухаем яго, выганім трохпалёўку за межы нашае Бацькаўшчыны, завядзём пладазьмен і іншыя рэвалюцыйныя і вывратовыя выдумкі, пашырым нашу часопісь паміж знаёмых, будзем акуратна плаціць падаткі ў „Саху“ і паглядзімо, што будзе рабіць тады гэты ўпарты рэдактар. Цікава, браточкі-чытачы, выкінуць гэты фокус, хаця, калі не для ўласнай карысьці, дык на злосьць нашаму рэдактару. Што-ж ён пасьля гэтага фокусу будзе рабіць? Калі-ж ён і тады не перастане лаяцца з намі, ну дык падазём на яго жалабу ў суд. А пакуль што будзем маўкліва слухаць яго напады на нас, бо на іх (хто ведае) можа мы і заслужылі.

Як Вы гэта думаеце?

**Кахаючы Вас чытач „Сахі“**

## Наша пошта.

**Самсоніку І.** 5 зл. перадана ў рэдакцыю „Студэнская Думка"

**Смулько К.** 1 зл. 20 гр. перадана ў рэд. „Студ. Дум"

**Ів. Пушкарэвічу.** Артыкул Ваш „Як я залячыў глыбокую рану ў каня" атрымалі. Цяпер зьмясьціць ня можам. Пажадана, каб Вы зьвярнулі ўвагу на палявыя досьледы і з працай сваёй падзяліліся на старонках „Сахі".

**Смулько К.** „Саху" Вам выслалі паўторна. Ня ведаем, чаму Вы не атрымалі першы раз.

**Менцюку Ф.** Складу насеньня пры „Сасе" няма.

**Н...** Адказу на Вашы пытаньні не даём, бо ня ведаем Вашага прозьвішча. Парады даюцца толькі падпішчыкам.

## Цэны у Вільні 23. III. 1929 г.

| | |
|---|---|
| Жыта 100 кілёграмаў | 42 — 41.40 |
| Ячмень „ „ | 40 — 37.00 |
| Авёс „ „ | 41 — 36.00 |
| Бульба „ „ | 18 — 10.00 |
| Вотрубі пшонныя 100 кілёграмаў | 35 — 31.00 |
| „ жытнія „ „ | 33 — 28.00 |
| Сена 100 кілёграмаў | 21 — 13.00 |
| Салома „ „ | 15 — 10.00 |
| Масла салёнае 1 кілгр. | 6.50 — 5.00 |
| Масла сэпаратнае 1 кілёгр. | 7.50 — 6.00 |
| Сыр 1 кілёгр. | 1.80 — 1.60 |
| Малако літр | 0.40 — 0.30 |
| Яйкі 10 шт. | 3 00 — 2.50 |
| Чылійская сялетра 100 кілёгр. | 18 проц.—22½ зл. |
| Азотняк 100 кілёгр. | 21 проц.—47— „ |
| Супэрфасфат 100 кілёгр. | 18 проц.—22½ „ |
| Тамасоўка „ „ | 18— „ |
| Паташовая соль 100 кілёгр. | 30 проц.—23½ „ |
| Каініт 100 кілёгр. | 8½ „ |

Даляр — 8.89—8.86
Залаты рубель—4.57.

**Рэдактар-Выдавец — А. Уласаў.**